# АБ САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ ІНВАЛІДАЎ У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Артыкул 6. Рэспубліканскі міжведамасны савет па праблемах інвалідаў**

Для каардынацыі палітыкі ў адносінах праблем інваліднасці і выпрацоўкі ўзгодненых дзеянняў, накіраваных на забеспячэнне выканання палажэнняў гэтага Закона, Урадам рэспублікі ўтвараецца Рэспубліканскі міжведамасны савет па праблемах інвалідаў. Склад савета фарміруецца з першых асоб міністэрстваў і ведамстваў, якія займаюцца пытаннямі сацыяльнага забеспячэння, аховы здароўя, занятасці, транспарту, сувязі, жыллёвага будаўніцтва, адукацыі, культуры і планавання; арганізацый інвалідаў і іншых няўрадавых арганізацый.

Узначальвае савет Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі.

Для забеспячэння дзейнасці савета за кошт адпаведных структур Савета Міністраў ствараецца пастаянна дзеючая рабочая група.

Палажэнне аб савеце і яго персанальны склад зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 7. Абарона правоў, свабод і законных інтарэсаў інвалідаў**

Абарона правоў, свабод і законных інтарэсаў інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь забяспечваецца дзяржавай у судовым або іншым парадку, устаноўленым законам.

Грамадзянін рэспублікі мае права ў судовым парадку апскарджваць рашэнне ўпаўнаважанага дзяржаўнага органа аб прызнанні або непрызнанні яго інвалідам.

Службовыя асобы і іншыя грамадзяне, вінаватыя ў парушэнні правоў, свабод і законных інтарэсаў інвалідаў, нясуць устаноўленую законам адказнасць.

## II. ПРАФІЛАКТЫКА І МЕДЫЦЫНСКАЯ РЭАБІЛІТАЦЫЯ ІНВАЛІДНАСЦІ

**Артыкул 8. Прафілактыка інваліднасці**

Прафілактыка інваліднасці ўключае ў сябе комплекс мер, накіраваных на папярэджанне спадчынных захворванняў, забеспячэнне здаровага спосабу жыцця насельніцтва, экалагічнай бяспекі, бясшкодных умоў працы, рацыянальнага харчавання, своечасовага лячэння хворых.

Сістэму мер па прафілактыцы інваліднасці распрацоўваюць рэспубліканскія органы аховы здароўя, а ажыццяўляюць прадпрыемствы, установы, арганізацыі і органы аховы здароўя.

**Артыкул 9. Забеспячэнне прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі бяспечных умоў працы грамадзянам, якія на іх працуюць**

Прадпрыемствы, установы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання забяспечваюць для ўсіх грамадзян, якія на іх працуюць, бяспечныя ўмовы працы і нясуць ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку адказнасць за зніжэнне працаздольнасці і ўрон, нанесены іх здароўю, пакрываюць расходы на лячэнне і рэабілітацыю.

Работніку, атрымаўшаму інваліднасць па віне ўласніка прадпрыемства, установы, арганізацыі, урон ва ўсіх выпадках пакрываецца поўнасцю, уключаючы шкоду, якая выяўляецца ў прычыненні маральных ці фізічных пакут.

**Артыкул 10. Медыцынская рэабілітацыя**

Медыцынская рэабілітацыя — сістэма мер, накіраваных на лячэнне розных захворванняў, траўм, фізічных, разумовых і іншых дэфектаў з мэтай прадухілення абвастрэння або абцяжарвання захворвання і наступлення парушэнняў, якія прыводзяць да інваліднасці.

Медыцынская рэабілітацыя ажыццяўляецца праз медыка-санітарную дапамогу, якая арганізуецца органамі аховы здароўя па месцы жыхарства і работы грамадзян.

**Артыкул 11. Медыка-прафесіянальная рэабілітацыя**

Медыка-прафесіянальная рэабілітацыя накіравана на аднаўленне зніжаных або страчаных прафесіянальна значных функцый, падбор прафесіі і адаптацыю да яе і мае на мэце зрабіць магчымым вяртанне інваліда да працоўнай дзейнасці ў ранейшай або новай прафесіі.

Правядзенне медыка-прафесіянальнай рэабілітацыі адпаведнымі органамі абавязковае для інваліда, калі яно прадугледжана індывідуальнай праграмай рэабілітацыі.

**Артыкул 12. Прызнанне асобы інвалідам**

Прызнанне асобы інвалідам ажыццяўляецца шляхам экспертнага абследавання яго ў медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі (МРЭК) і высвятлення адпаведнага заключэння.

Палажэнне аб МРЭК і інструкцыя па вызначэнню групы і прычыны інваліднасці зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Заключэнне медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі з'яўляецца афіцыяльным дакументам, які засведчвае групу і прычыну інваліднасці, а таксама індывідуальную праграму рэабілітацыі.

Інваліду выдаецца пасведчанне. Форма пасведчання зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з грамадскімі арганізацыямі інвалідаў.

**Артыкул 13. Індывідуальная праграма рэабілітацыі інвалідаў**

Медыцынская, прафесіянальная і сацыяльная рэабілітацыя інвалідаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі, якая вызначаецца на аснове заключэння медыка-сацыяльнай экспертызы дзяржаўнымі органамі з удзелам прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый інвалідаў.

Індывідуальная праграма рэабілітацыі інваліда вызначае канкрэтныя аб'ёмы, віды і тэрміны правядзення рэабілітацыйных мер, а таксама віды сацыяльнай дапамогі.

Індывідуальная праграма рэабілітацыі з'яўляецца дакументам, абавязковым для выканання адпаведнымі дзяржаўнымі органамі, а таксама прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання.

**Артыкул 14. Сістэма органаў медыка-прафесіянальнай рэабілітацыі**

У адзіную сістэму органаў медыка-прафесіянальнай рэабілітацыі інвалідаў уваходзяць рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр рэабілітацыі інвалідаў, абласныя, гарадскія спецыялізаваныя цэнтры медыка-прафесіянальнай рэабілітацыі інвалідаў, міжраённыя, раённыя і спецыялізаваныя медыка-рэабілітацыйныя экспертныя камісіі.

Органы медыка-прафесіянальнай рэабілітацыі знаходзяцца ў веданні органаў аховы здароўя рэспублікі.

**Артыкул 15. Медыцынскае абслугоўванне інвалідаў**

Інвалідам гарантуецца кваліфікаваная бясплатная медыцынская дапамога за кошт сродкаў бюджэту ў дзяржаўных медыцынскіх установах.

Інваліды 1-й і 2-й груп і дзеці-інваліды забяспечваюцца лякарствамі па рэцэптах лечачых урачоў з 90-працэнтнай скідкай, а інваліды 3-й групы — са скідкай пяцідзесяці працэнтаў ад іх кошту, калі яны не карыстаюцца правам на атрыманне лякарстваў на больш ільготных умовах.

Інваліды маюць права на пераважнае абслугоўванне ў амбулаторна-паліклінічных установах і аптэках, а таксама на першачарговае забеспячэнне санаторна-курортным лячэннем у парадку, які ўстанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## III. ВЫХАВАННЕ, АДУКАЦЫЯ І ПРАФЕСІЯНАЛЬНАЯ ПАДРЫХТОЎКА ІНВАЛІДАЎ

**Артыкул 16. Забеспячэнне інвалідам умоў для атрымання адукацыі і прафесіянальнай падрыхтоўкі**

Дзяржава гарантуе інвалідам неабходныя ўмовы для атрымання адукацыі і прафесіянальнай падрыхтоўкі.

Органы адукацыі сумесна з органамі сацыяльнага забеспячэння і аховы здароўя забяспечваюць дашкольнае і пазашкольнае выхаванне дзяцей-інвалідаў, атрыманне інвалідамі сярэдняй, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі.

Адукацыя і прафесіянальная падрыхтоўка інвалідаў ажыццяўляюцца ў розных формах, уключаючы навучанне дома і па індывідуальных вучэбных планах.

Дзяржава забяспечвае падрыхтоўку педагагічных кадраў спецыяльна для навучання і прафесіянальнай падрыхтоўкі інвалідаў.

**Артыкул 17. Дашкольнае выхаванне дзяцей-інвалідаў**

У мэтах стварэння найбольш спрыяльных магчымасцей для выхавання дзяцей-інвалідаў дашкольнага ўзросту і аказання ім неабходнай рэабілітацыйнай дапамогі ў дзіцячых дашкольных установах агульнага тыпу ствараюцца ўмовы для знаходжання ў іх дзяцей-інвалідаў.

Для дзяцей-інвалідаў, стан здароўя якіх выключае магчымасць іх знаходжання ў дашкольных установах агульнага тыпу, ствараюцца спецыяльныя дашкольныя ўстановы.

**Артыкул 18. Выхаванне і навучанне дзяцей-інвалідаў дома**

У выпадку, калі адсутнічае магчымасць ажыццяўляць выхаванне і навучанне дзяцей-інвалідаў у агульных або спецыяльных дашкольных установах і навучальных установах, то па жаданню бацькоў выхаванне і навучанне іх праводзіцца дома. Пры гэтым аднаму з бацькоў або асобе, якая іх замяняе, прадастаўляюцца матэрыяльнае забеспячэнне і льготы ў парадку і на ўмовах, якія вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Час догляду за такім інвалідам залічваецца ў працоўны стаж.

Адпаведныя навучальна-выхаваўчыя ўстановы аказваюць дапамогу бацькам у навучанні дзяцей-інвалідаў дома.

**Артыкул 19. Пазашкольнае выхаванне дзяцей-інвалідаў**

У мэтах усебаковага і гарманічнага развіцця дзяцей-інвалідаў, выхавання ў іх грамадскай актыўнасці, інтарэсу да працы, далучэння да навукі, тэхнікі, мастацтва і спорту органы адукацыі, іншыя дзяржаўныя органы абавязаны забяспечваць даступнасць пазашкольнага выхавання дзецям-інвалідам, ствараючы для гэтага неабходныя ўмовы.

**Артыкул 20. Сярэдняя, сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя інвалідаў**

Сярэдняя, сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя інвалідаў ажыццяўляецца ў навучальных установах агульнага тыпу, а пры неабходнасці — у спецыяльных навучальных установах.

Вучэбныя заняткі арганізуюцца таксама для дзяцей-інвалідаў, якія праходзяць курс лячэння ў стацыянарных лячэбна-прафілактычных або рэабілітацыйных установах.

Інваліды, у выпадку станоўчай здачы ўступных экзаменаў, пры іншых роўных умовах, маюць пераважнае права на залічэнне ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.

Паспяваючым інвалідам стацыянарнай формы навучання выплачваецца стыпендыя незалежна ад атрымліваемай пенсіі, дапамогі.

Дзяржава садзейнічае ў працаўладкаванні маладых спецыялістаў-інвалідаў.

**Артыкул 21. Выхаванне і навучанне дзяцей-інвалідаў у стацыянарных установах**

Дзецям-інвалідам, якія пастаянна знаходзяцца ў стацыянарных установах, забяспечваецца гэтымі ўстановамі бесперапыннасць выхавання і адукацыі ў арганічнай сувязі з сацыяльна-бытавой і працоўнай адаптацыяй.

**Артыкул 22. Прафесіянальная падрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі інвалідаў**

Прафесіянальная падрыхтоўка і павышэнне кваліфікацыі інвалідаў забяспечваюцца ў навучальных установах, на прадпрыемствах і ў арганізацыях (спецыялізаваных або агульнага тыпу) сумесна з установамі сацыяльнай дапамогі ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі.

Матэрыяльнае забеспячэнне інвалідаў у перыяд прафесіянальнай падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі ажыццяўляецца ў парадку і на ўмовах, якія вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 23. Сродкі міжасабовых зносін**

Мова жэстаў прызнаецца дзяржавай у якасці сродку міжасабовых зносін, навучання і прадастаўлення паслуг перакладу.

Асобы з дэфектамі зроку забяспечваюцца навучаннем па сістэме Брайля, доступам да аўдыёсродкаў і буйнога шрыфту.

Для асоб з разумовымі недахопамі арганізуецца сістэма навучання лёгкаму разуменню мовы.

Асобам з дэфектамі мовы прадастаўляюцца сучасныя тэхнічныя сродкі зносін.

## IV. ГАРАНТЫІ ПРАВОЎ ІНВАЛІДАЎ У СФЕРЫ ПРАЦЫ

**Артыкул 24. Спецыяльныя меры па працаўладкаванню інвалідаў**

Спецыяльныя меры па працаўладкаванню інвалідаў уключаюць у сябе комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на забеспячэнне працаўладкавання інвалідаў і заканадаўчае замацаванне абавязацельстваў па аказанню фінансавай дапамогі і прадастаўленню льгот прадпрыемствам, установам і арганізацыям (незалежна ад форм уласнасці), якія ствараюць спецыяльныя рабочыя месцы і прымяняюць працу інвалідаў.

**Артыкул 25. Рэалізацыя інвалідамі права на працу**

У мэтах рэалізацыі творчых і вытворчых здольнасцей інвалідаў з улікам індывідуальных праграм рэабілітацыі ім забяспечваецца права працаваць на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях са звычайнымі ўмовамі працы, на спецыялізаваных прадпрыемствах, у цэхах і на ўчастках, якія выкарыстоўваюць працу інвалідаў, а таксама займацца прадпрымальніцкай і іншай працоўнай дзейнасцю, не забароненай законам.

Адмова ў заключэнні працоўнага дагавора або ў перамяшчэнні па службе, звальненне па ініцыятыве адміністрацыі, перавод інваліда на іншую работу без яго згоды па матывах інваліднасці не дапускаецца, за выключэннем выпадкаў, калі па заключэнню медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі стан яго здароўя перашкаджае выкананню прафесіянальных абавязкаў або пагражае здароўю і бяспецы працы іншых асоб.

Не дапускаецца звальненне з работы па ініцыятыве адміністрацыі асобы, якая праходзіць медыцынскую, прафесіянальную і сацыяльную рэабілітацыю ў адпаведных установах незалежна ад тэрміну знаходжання ў іх.

**Артыкул 26. Органы па працаўладкаванню інвалідаў**

Працаўладкаванне інвалідаў забяспечваецца дзяржаўнай службай занятасці і таварыствамі інвалідаў.

Абласныя (Мінскі гарадскі) органы па працаўладкаванню штогод распрацоўваюць праграмы па працаўладкаванню інвалідаў, узаемадзейнічаючы пры гэтым з таварыствамі інвалідаў, органамі сацыяльнага забеспячэння, прафсаюзамі. Да выключнага ведання дзяржаўных службаў занятасці насельніцтва на ўсіх узроўнях адносіцца стварэнне рабочых месцаў для інвалідаў.

Раённыя органы па працаўладкаванню непасрэдна забяспечваюць працаўладкаванне інвалідаў. Іх накіраванне аб прыёме на работу інваліда на спецыяльна створанае або браніруемае рабочае месца абавязковае для прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання.

**Артыкул 27. Забеспячэнне занятасці інвалідаў**

У мэтах забеспячэння занятасці інвалідаў дзяржаўнымі органамі з удзелам грамадскіх арганізацый інвалідаў устанаўліваюцца нарматывы па браніраванню на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях рабочых месцаў для інвалідаў у размеры не менш пяці працэнтаў ад колькасці працуючых (калі колькасць працуючых не менш 20 чалавек).

Парадак устанаўлення нарматываў па браніраванню рабочых месцаў і меры адказнасці прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, уключаючы органы дзяржаўнай улады і кіравання, за невыкананне заданняў па браніраванню рабочых месцаў для інвалідаў вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 28. Абавязак работадаўцаў па працаўладкаванню асоб, страціўшых працаздольнасць на рабоце**

Прадпрыемствы, установы, арганізацыі, кааператывы, калгасы і прыватныя прадпрымальнікі абавязаны выдзяляць або арганізоўваць новыя рабочыя месцы для працаўладкавання тых работнікаў, якія страцілі працаздольнасць у выніку няшчаснага выпадку на дадзенай вытворчасці або атрымалі прафесіянальнае захворванне і ў выніку гэтага прызнаны інвалідамі.

У выпадку невыканання ўказанага патрабавання яны павінны пры скасаванні працоўнага дагавора (кантракта) з гэтым работнікам унесці ў дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці ўзнос, роўны 10-кратнай гадавой заработнай плаце дадзенага работніка.

**Артыкул 29. Стварэнне спецыялізаваных прадпрыемстваў, цэхаў і ўчасткаў для выкарыстання працы інвалідаў**

З улікам патрэбнасцей інвалідаў і мясцовых асаблівасцей адпаведныя органы па працаўладкаванню, а таксама прадпрыемствы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці і гаспадарання ствараюць спецыялізаваныя прадпрыемствы, цэхі і ўчасткі для выкарыстання працы інвалідаў. У гэтым выпадку ім з Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці пакрываюцца страты за набытае абсталяванне для прыстасавання рабочых месцаў інвалідаў.

Будаўніцтва спецыялізаваных прадпрыемстваў, цэхаў і ўчасткаў для працаўладкавання інвалідаў, якія прадугледжаны праграмамі абласных (Мінскага гарадскога) органаў па працаўладкаванню, абавязковае для прадпрыемстваў, арганізацый і кааператываў.

**Артыкул 30. Перавагі і льготы для прадпрыемстваў, якія прымяняюць працу інвалідаў**

Прадпрыемствы, установы і арганізацыі, у якіх занята не менш трыццаці працэнтаў інвалідаў ад агульнай колькасці працуючых, карыстаюцца правам на льготнае падаткаабкладанне, фінансаванне і матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне.

Калі інваліды складаюць не менш пяцідзесяці працэнтаў ад агульнай колькасці працуючых (без уліку працуючых па сумяшчальніцтву), прадпрыемствы, установы і арганізацыі вызваляюцца ад падатку на прыбытак.

Парадак і ўмовы льготнага падаткаабкладання, фінансавання і матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, якія прымяняюць і забяспечваюць працу інвалідаў, устанаўліваюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 31. Умовы працы інвалідаў**

Інвалідам, занятым на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях, ствараюцца неабходныя ўмовы працы ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі.

Умовы працы, у тым ліку аплата працы, рэжым рабочага часу і часу адпачынку, працягласць штогадовага і дадатковага водпускаў, якія ўстанаўліваюцца ў калектыўным або індывідуальным працоўным дагаворы, не могуць пагаршаць становішча або абмяжоўваць правы інвалідаў у параўнанні з іншымі работнікамі.

Адміністрацыя прадпрыемстваў, арганізацый мае права памяншаць інвалідам нормы выпрацоўкі ў залежнасці ад стану іх здароўя.

Прыцягненне інвалідаў да звышурочных работ, работы ў выхадныя дні і начны час дапускаецца толькі з іх згоды і пры ўмове, калі такія работы не забаронены ім медыцынскімі рэкамендацыямі.

Інвалідам прадастаўляецца штогадовы водпуск не менш аднаго каляндарнага месяца.

Для інвалідаў 1-й і 2-й груп устанаўліваецца скарочаная працягласць рабочага часу не больш 36 гадзін у тыдзень.

Інвалідам пры прыёме на работу не ўстанаўліваецца выпрабавальны тэрмін. Пры скарачэнні колькасці або штату работнікаў інваліды пры роўнай прадукцыйнасці працы і кваліфікацыі маюць пераважнае права пакідання на рабоце.

**Артыкул 32. Надомная праца і прадпрымальніцкая дзейнасць інвалідаў**

Саветы народных дэпутатаў ствараюць неабходныя ўмовы для арганізацыі надомнай працы і прадпрымальніцкай дзейнасці інвалідаў шляхам прадастаўлення нежылых памяшканняў для ўказанай дзейнасці, а таксама ў набыцці сыравіны і збыце прадукцыі.

## V. СТВАРЭННЕ ЎМОЎ ДЛЯ БЕСПЕРАШКОДНАГА ДОСТУПУ ІНВАЛІДАЎ ДА САЦЫЯЛЬНАЙ ІНФРАСТРУКТУРЫ

**Артыкул 33. Дзяржаўная палітыка ў адносінах да аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры**

Органы дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь, прадпрыемствы і арганізацыі (незалежна ад форм уласнасці) забяспечваюць інвалідам неабходныя ўмовы для свабоднага доступу да аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры, жылых, грамадскіх, вытворчых будынкаў і збудаванняў, бесперашкоднага карыстання грамадскім транспартам і транспартнымі камунікацыямі, сродкамі сувязі і інфармацыі, месцамі адпачынку і вольнага часу.

Кантроль за рэалізацыяй указаных мерапрыемстваў ажыццяўляе Рэспубліканскі міжведамасны савет па праблемах інвалідаў.

**Артыкул 34. Улік патрэбнасцей інвалідаў пры праектаванні і будаўніцтве аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры**

Праектаванне і забудова населеных пунктаў, фарміраванне жылых раёнаў, распрацоўка праектных рашэнняў, будаўніцтва і рэканструкцыя будынкаў, збудаванняў, уключаючы аэрапорты, чыгуначныя вакзалы, рачныя порты, комплексы і камунікацыі, а таксама распрацоўка і выраб транспартных сродкаў, у тым ліку індывідуальных, сродкаў сувязі і інфармацыі без прыстасавання гэтых аб'ектаў і сродкаў для доступу і выкарыстання інвалідамі не дапускаюцца.

**Артыкул 35. Прыстасаванне дзеючых аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры для выкарыстання інвалідамі**

Дзеючыя сродкі транспарту, сувязі і інфармацыі і іншыя аб'екты сацыяльнай інфраструктуры павінны быць прыстасаваны для доступу і выкарыстання інвалідамі ў парадку і на ўмовах, якія вызначаюцца адпаведнымі органамі дзяржаўнай улады і кіравання з удзелам грамадскіх арганізацый інвалідаў.

У тых выпадках, калі ўказаныя аб'екты немагчыма прыстасаваць для доступу інвалідаў, адпаведнымі прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі павінны быць распрацаваны і ажыццёўлены неабходныя меры, якія б забяспечвалі задавальненне патрэбнасцей інвалідаў.

**Артыкул 36. Прыстасаванне жылых памяшканняў для доступу і карыстання інвалідамі**

Жылыя памяшканні, якія займаюць інваліды або сем'і, што маюць у сваім складзе інваліда, павінны быць абсталяваны спецыяльнымі сродкамі і прыстасаваннямі ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі інваліда.

Абсталяванне ўказаных жылых памяшканняў ажыццяўляецца мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, у веданні якіх знаходзіцца жыллёвы фонд. Абсталяванне індывідуальных жылых дамоў праводзіцца ў парадку, які вызначаецца адпаведнымі Саветамі народных дэпутатаў, з удзелам грамадскіх арганізацый інвалідаў.

Фінансаванне ўказаных мерапрыемстваў ажыццяўляецца за кошт сродкаў, якія выдзяляюцца на бягучы і капітальны рамонт жыллёвага фонду. На гэтыя мэты таксама могуць накіроўвацца сродкі грамадскіх дабрачынных арганізацый.

**Артыкул 37. Прыстасаванне транспартных сродкаў і маршрутаў для карыстання інвалідамі**

Адпаведныя міністэрствы і ведамствы распрацоўваюць асноўныя прынцыпы і дадатковыя патрабаванні па рэалізацыі праграмы выраб і пераабсталявання транспартных сродкаў для карыстання інвалідамі.

У праграмах павінны быць прадугледжаны:

— тэрміны для пераабсталявання ключавых чыгуначных, аўтобусных станцый, рачных портаў, аэрапортаў, якія павінны быць даступныя для інвалідаў;

— спецыяльныя прыстасаванні для транспартных сродкаў, якія перавозяць інвалідаў, у тым ліку і з інваліднымі каляскамі;

— спецыяльныя маршруты з зададзеным графікам руху;

— прыпынкі транспартных сродкаў па патрабаванню інвалідаў.

**Артыкул 38. Забеспячэнне інвалідам доступу ў культурна-відовішчныя ўстановы і спартыўныя збудаванні**

Мясцовыя органы дзяржаўнай улады і кіравання абавязаны забяспечваць інвалідам неабходныя ўмовы для свабоднага доступу і карыстання культурна-відовішчнымі ўстановамі і спартыўнымі збудаваннямі для заняткаў фізічнай культурай і спортам, а таксама забяспечваць прадастаўленне спецыяльнага спартыўнага інвентару.

Інваліды карыстаюцца пералічанымі паслугамі бясплатна або на льготных умовах у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 39. Забеспячэнне інвалідаў сродкамі сувязі**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь забяспечвае неабходныя ўмовы для ўкаранення спецыяльных сродкаў тэлекамунікацыйнага абслугоўвання інвалідаў і спецыяльнымі тэлефоннымі апаратамі для абанентаў з дэфектамі слыху перагаворныя пункты калектыўнага карыстання.

Інваліды 1-й і 2-й груп маюць права на бясплатную або льготную ўстаноўку без чаргі тэлефонаў, уключаючы спецыяльныя, на ўмовах і ў парадку, устаноўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## VI. САЦЫЯЛЬНАЯ ДАПАМОГА ІНВАЛІДАМ

**Артыкул 40. Віды сацыяльнай дапамогі інвалідам**

Інвалідам гарантавана сацыяльная дапамога з боку дзяржавы ў выглядзе грашовых выплат (пенсіі, дапамогі, аднаразовыя выплаты), забеспячэнне тэхнічнымі і іншымі сродкамі, уключаючы аўтамабілі, крэслы-каляскі, пратэзна-артапедычныя вырабы, друкаваныя выданні са спецыяльным шрыфтам, гукаўзмацняльную апаратуру і сігналізатары, а таксама шляхам аказання паслуг па медыцынскай, сацыяльнай, прафесіянальнай рэабілітацыі і бытавому абслугоўванню.

Парадак забеспячэння інвалідаў пенсіямі і дапамогамі вызначаецца заканадаўствам аб пенсіённым і сацыяльным забеспячэнні.

Асобы, якія сталі інвалідамі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, разам з правамі, прадастаўленымі гэтым Законам, карыстаюцца льготамі і кампенсацыямі, устаноўленымі законамі Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» і СССР «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых у выніку Чарнобыльскай катастрофы».

**Артыкул 41. Прадастаўленне інваліду тэхнічнага або іншага сродку**

Тэхнічны або іншы сродак прадастаўляецца інваліду ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі бясплатна або на льготных умовах.

У выпадку непрадастаўлення інваліду тэхнічнага або іншых сродкаў, прадугледжаных праграмай рэабілітацыі, яму выплачваецца кампенсацыя ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Інвалідам, якія атрымалі ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі транспартныя сродкі бясплатна або на льготных умовах, выплачваецца кампенсацыя на тэхнічнае абслугоўванне і рамонт гэтых сродкаў у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 42. Транспартнае абслугоўванне інвалідаў**

Інваліды карыстаюцца ў рэспубліцы правам бясплатнага праезду на ўсіх відах гарадскога і прыгараднага пасажырскага транспарту, акрамя таксі.

Інвалідам прадастаўляецца пяцідзесяціпрацэнтная скідка з кошту праезду на ўнутраных лініях паветранага, чыгуначнага, рачнога і аўтамабільнага транспарту з 1 кастрычніка па 15 мая і адзін раз у астатні час года.

Указаныя льготы распаўсюджваюцца на асобу, якая суправаджае інваліда 1-й групы, а таксама дзіця-інваліда.

**Артыкул 43. Парадак і ўмовы пратэзавання інвалідаў**

Інваліды маюць права на выраб і рамонт усіх відаў пратэзных вырабаў (акрамя зубных пратэзаў з каштоўных металаў), за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Артыкул 44. Жыллёва-бытавое абслугоўванне інвалідаў**

Пры размеркаванні жылых памяшканняў выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемствы, установы і арганізацыі ўлічваюць патрэбнасці інвалідаў у выдзяленні ім жылых памяшканняў паблізу месца іх работы, месца жыхарства іх сваякоў, устаноў рэабілітацыі.

Інвалідам згодна з медыцынскімі паказаннямі і з улікам іх жадання прадастаўляюцца (або замяняюцца) жылыя памяшканні на ніжніх паверхах жылых дамоў.

Жылыя памяшканні, якія прадастаўляюцца інвалідам, павінны адпавядаць санітарна-тэхнічным патрабаванням, што вызначаюцца ўлікам стану здароўя інвалідаў.

Падставы прызнання інвалідаў маючымі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, чарговасць прадастаўлення ім жылля вызначаюцца Жыллёвым Кодэксам Рэспублікі Беларусь, пры гэтым інваліды 1-й групы лічацца маючымі патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў пры забяспечанасці жылой плошчай па 9 кв. метраў і менш на аднаго члена сям'і.

Інвалідам прадастаўляюцца льготы па аплаце жылля і камунальных паслуг у парадку, які ўстанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Інвалідам з парушэннем апорна-рухальнага апарату прадастаўляецца права на будаўніцтва гаража паблізу месца пражывання.

**Артыкул 45. Забеспячэнне інвалідаў харчовымі і прамысловымі таварамі**

Інваліды маюць права на льготнае забеспячэнне харчовымі і прамысловымі таварамі.

З гэтай мэтай дзяржава стварае спецыяльныя магазіны, секцыі, аддзелы па продажу харчовых і прамысловых тавараў інвалідам, арганізуе сталы заказаў, спецыяльны ўлік для набыцця тавараў павышанага попыту.

Частку харчовых і прамысловых тавараў дзяржава накіроўвае мэтавым назначэннем для продажу інвалідам на льготных умовах.

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў па хадайніцтвах грамадскіх арганізацый інвалідаў аказваюць дапамогу інвалідам у набыцці праз рознічную гандлёвую сетку тавараў гаспадарчага, культурна-бытавога, турысцкага і спартыўнага прызначэння.

Пералік захворванняў інвалідаў, якія маюць права на льготнае абслугоўванне харчовымі і прамысловымі таварамі, зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 46. Надомнае абслугоўванне**

Інвалідам, якія маюць патрэбу ў пабочным доглядзе і дапамозе, органамі сацыяльнай дапамогі прадастаўляюцца медыцынскія і бытавыя паслугі дома або ў стацыянарных установах.

Дзяржава садзейнічае развіццю сеткі стацыянарных устаноў сацыяльнай дапамогі інвалідам, якія маюць патрэбу ў пабочным доглядзе.

**Артыкул 47. Правы інвалідаў, якія знаходзяцца ў дамах-інтэрнатах і іншых стацыянарных установах сацыяльнай дапамогі**

Умовы прабывання інвалідаў у доме-інтэрнаце або іншай стацыянарнай установе сацыяльнай дапамогі забяспечваюць магчымасць рэалізацыі інвалідамі іх правоў і законных інтарэсаў і садзейнічаюць максімальнаму задавальненню патрэбнасцей асобы.

У выпадку, калі ў выніку рэабілітацыйных мер адпала неабходнасць далейшага знаходжання інваліда ў доме-інтэрнаце або іншай стацыянарнай установе сацыяльнай дапамогі, яму прадастаўляецца мясцовым органам дзяржаўнай улады добраўпарадкаваная жылая плошча ў адпаведнасці з патрабаваннямі артыкулаў 36 і 44 гэтага Закона.

Дзеці-інваліды, якія знаходзяцца ў стацыянарных установах і з'яўляюцца сіротамі або пазбаўлены апекі бацькоў, па дасягненні паўналецця атрымліваюць без чаргі жылую плошчу ў адпаведнасці з індывідуальнай праграмай рэабілітацыі.

**Артыкул 48. Паўнамоцтвы мясцовых органаў улады ў прыняцці рашэнняў, накіраваных на паляпшэнне жыцця інвалідаў.**

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў за кошт сродкаў адпаведных бюджэтаў у межах сваіх паўнамоцтваў могуць устанаўліваць даплаты інвалідам да ўсіх відаў дзяржаўных пенсій, ільготы па медыцынскаму абслугоўванню, па аплаце жылой плошчы, камунальных паслуг, па праезду на грамадскім транспарце, скідкі з кошту індывідуальных сродкаў перамяшчэння, паліва, прадуктаў харчавання, адзення, абутку і іншых неабходных інвалідам тавараў, а таксама прымаць іншыя рашэнні, накіраваныя на задавальненне спецыфічных патрэбнасцей інвалідаў і павышэнне іх жыццёвага ўзроўню.

**Артыкул 49. Паўнамоцтвы працоўных калектываў у прыняцці рашэнняў, накіраваных на паляпшэнне ўмоў жыцця інвалідаў**

Інваліды, якія працавалі да выхаду на пенсію на прадпрыемстве, ва ўстанове, арганізацыі, захоўваюць права нароўне з яго работнікамі карыстацца наяўнымі магчымасцямі па медыцынскаму абслугоўванню, забеспячэнню жыллём, пуцёўкамі ў аздараўленчыя і прафілактычныя ўстановы, а таксама па рашэнню агульнага сходу (канферэнцыі) калектыву — іншымі сацыяльнымі паслугамі і льготамі.

Прадпрыемствы, установы і арганізацыі незалежна ад форм уласнасці маюць права за кошт уласных сродкаў устанаўліваць надбаўкі і даплаты да пенсій інвалідаў, асабліва адзінокіх, якія маюць патрэбу ў пабочнай дапамозе і доглядзе, а таксама прадастаўляць іншыя льготы, прадугледжаныя гэтым Законам.

**Артыкул 50. Крыніцы фінансавання сацыяльнай дапамогі**

Сацыяльная дапамога інвалідам прадастаўляецца за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовага бюджэтаў, пенсіённага фонду і фонду сацыяльнага страхавання Рэспублікі Беларусь, а таксама рэспубліканскага фонду сацыяльнай абароны інвалідаў, які ўтвараецца за кошт добраахвотных узносаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, незалежна ад выкарыстоўваемых форм уласнасці і гаспадарання, кааператываў, грамадскіх арганізацый і грамадзян, даходаў ад правядзення тэатральна-відовішчных мерапрыемстваў, латарэй, дабрачыннай дзейнасці і іншых паступленняў.

Прадпрыемствам, установам, арганізацыям, у тым ліку грамадскім, і кааператывам, а таксама асобам, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, фінансуючым мерапрыемствы, звязаныя з аказаннем сацыяльнай дапамогі інвалідам, прадастаўляюцца льготы па падаткаабкладанню ў парадку і на ўмовах, вызначаемых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь

## VII. ГРАМАДСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ ІНВАЛІДАЎ

**Артыкул 51. Стварэнне грамадскіх арганізацый інвалідаў**

У мэтах абароны сваіх правоў і інтарэсаў, аказання ўзаемнай дапамогі і паслуг, інваліды і асобы, якія іх прадстаўляюць, маюць права ствараць грамадскія арганізацыі, у тым ліку розныя фонды, у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 52. Дзяржава і грамадскія арганізацыі інвалідаў**

Дзяржава забяспечвае захаванне правоў і законных інтарэсаў грамадскіх арганізацый інвалідаў і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і гэтым Законам гарантуе ўмовы для выканання імі статутных задач, аказвае ім усямерную падтрымку і дапамогу.

Умяшальніцтва дзяржаўных органаў і службовых асоб у дзейнасць грамадскіх арганізацый інвалідаў не дапускаецца, акрамя выпадкаў, калі гэта прадугледжана заканадаўствам.

Пытанні, якія датычацца інтарэсаў грамадскіх арганізацый інвалідаў, у прадугледжаных заканадаўствам выпадках вырашаюцца дзяржаўнымі органамі і гаспадарчымі арганізацыямі з удзелам або па ўзгадненню з адпаведнымі грамадскімі арганізацыямі інвалідаў.

**Артыкул 53. Падаткаабкладанне грамадскіх арганізацый інвалідаў**

Грамадскія арганізацыі інвалідаў, іх прадпрыемствы, установы і арганізацыі, калі на іх працуе не менш пяцідзесяці працэнтаў інвалідаў ад колькасці прамыслова-вытворчага персаналу, вызваляюцца ад платы падатку на прыбытак і збораў, якія ўносяцца ў дзяржаўны бюджэт.

Атрыманыя даходы накіроўваюцца на развіццё і ўмацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы гэтых таварыстваў і задавальненне сацыяльных патрэб інвалідаў.

**Артыкул 54. Стварэнне ўмоў для эканамічнай дзейнасці грамадскіх арганізацый інвалідаў**

Матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне прадпрыемстваў і грамадскіх арганізацый інвалідаў праводзіцца з цэнтралізаваных рэспубліканскіх рэсурсаў.

Прадукцыя прадпрыемстваў, прызначаная для рэабілітацыі інвалідаў (тэхнічныя сродкі і прыстасаванні), уваходзіць у дзяржаўны заказ і забяспечваецца матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі ў першачарговым парадку.

Будаўніцтва аб'ектаў для інвалідаў, незалежна ад крыніц фінансавання, уключаецца ў пералік будоўляў дзяржаўнага заказу.

Грамадскім арганізацыям інвалідаў, іх прадпрыемствам і арганізацыям устанаўліваецца льготны ўзровень тарыфу на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне.

**Артыкул 55. Размеркаванне жылой плошчы, пабудаванай за кошт сродкаў грамадскіх арганізацый інвалідаў**

Жылая плошча, пабудаваная грамадскімі арганізацыямі інвалідаў за кошт уласных сродкаў, адабранню не падлягае і размяркоўваецца паводле меркавання грамадскіх арганізацый інвалідаў у адпаведнасці з жыллёвым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пры долевым удзеле ў жыллёвым будаўніцтве грамадскія арганізацыі інвалідаў вызваляюцца ад долевага ўдзелу ў развіцці магутнасцей будындустрыі і камунальным будаўніцтве, а таксама ад перадачы часткі жылой плошчы мясцовым Саветам і іншым арганізацыям.

**Артыкул 56. Міжнародныя сувязі грамадскіх арганізацый інвалідаў**

Грамадскія арганізацыі інвалідаў у адпаведнасці з іх статутамі могуць уступаць у міжнародныя (няўрадавыя) аб'яднанні, падтрымліваць прамыя міжнародныя сувязі і кантакты, заключаць адпаведныя пагадненні.

Дзяржаўныя органы, Рэспубліканскі міжведамасны савет па праблемах інвалідаў аказваюць садзейнічанне і дапамогу, у тым ліку фінансавую, грамадскім арганізацыям інвалідаў ва ўстанаўленні і развіцці супрацоўніцтва з аналагічнымі грамадскімі фарміраваннямі замежных краін у пытаннях рэабілітацыі інвалідаў, пашырэння культурных сувязей, турызму і спорту.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
С. ШУШКЕВІЧ.

11 лістапада 1991 г.
гор. Мінск.

# АСТРАЛОГІЯ З УСМЕШКАЙ

(Працяг. Пачатак у №№ 195, 196, 198—201, 203—205, 207—210, 212, 214, 216—219, 222 і 224).

## ВАДАЛЕЙ-ЖАНЧЫНА

Першае, што трэба памятаць, заляцаючыся да Вадалея-жанчыны: яна парадаксальная ў каханні, як і ў жыцці.

Яна будзе вам вернай, і разам з тым некалькі халоднай і аддаленай. У жанчыны, якая знаходзіцца пад уладай Урана, у жыцці, акрамя вас, мноства сяброў і розных захапленняў. Не думайце, што вам удасца прывязаць яе да дзіцячай каляскі ці кухоннай пліты. Яна належыць усім і нікому. Таму калі вы прадаставіце ёй свабоду, адданасць яе вам будзе бязмежнай.

Грошы не вельмі цікавяць Вадалея. Ёй значна важней, каб вы дабіліся поспеху ў нейкай прафесіянальнай (лепш інтэлектуальнай) дзейнасці, чым мелі вялікае багацце.

Вадалей — ідэальная сяброўка для таго, хто робіць навуковую ці палітычную кар'еру. Яна разумная, прыемная ў зносінах, натуральна трымаецца ў любой кампаніі.

Звычайна Вадалей ахвотна прымае на веру ўсе вашы словы. Яна ніколі не залазіць у ваш партфель і кішэні, не будзе разглядаць вашы насоўкі, каб знайсці сляды чужой памады.

І ўсё ж, калі вы дасцё ёй сур'ёзную прычыну вам не верыць, Вадалей проста вас пакіне. Праўда, вы можаце застацца сябрамі, але і толькі.

Вадалеі-жанчыны рэдка здраджваюць мужу. Але ўжо калі яна пакахае па-сапраўднаму, яна не будзе доўга весці двайную гульню, а спыніць адносіны, якія сябе зжылі. Не дзіўна, што сярод Вадалеяў вельмі частыя разводы.

Вадалеі не любяць пазычаць грошы і даваць у доўг. У тым выпадку, калі ёй прыходзіцца пазычаць, яна аддае доўг без усялякіх адтэрміновак і агаворак. Даўгоў у Вадалеяў амаль не бывае, яны баяцца іх, як агню.

Калі вы не хочаце страціць яе, не будзьце раўнівым, крытычным, кансерватыўным, скупым, дробязным і злым. Любіце яе сяброў, нават калі яны часам і здаюцца вам дзіўнымі.

У Вадалея выключныя інтуіцыя і прадбачанне. Нават калі яе прадказанні збудуцца не адразу, а праз некаторы час, яны ўсё роўна збудуцца. Вадалей жа — жанчына будучыні і дакладна ведае, што будзе заўтра. А калі і вы хочаце гэта ведаць, то часцей прыслухоўвайцеся да яе.

## ВАДАЛЕЙ-ДЗІЦЯ

Гэтыя дзеці незалежныя, упартыя, чуллівыя, вынаходлівыя і на рэдкасць арыгінальныя, прычым настолькі, што бацькі не ведаюць, што і падумаць. Іншы раз ім здаецца, што іх дзіця геній, а іншы раз — ледзь ці не вар'ят. Прычым і ў тым і ў другім выпадку яны не далёкія ад ісціны. З дзіцем-Вадалеем нішто не выключана. Ён — сапраўдная загадка. Выдатныя здольнасці Вадалея могуць праявіцца як ў дзяцінстве, так і ў сталым і нават пажылым узросце.

Вучыць і выхоўваць Вадалеяў — задача не з простых. Вам прыйдзецца ў гэтым вельмі пастарацца.

Першае, што трэба зрабіць,— спыніцца на якой-небудзь адной з яго незвычайных ідэй і накіраваць яго да яе, сочачы, каб ён нікуды не зварочваў.

З дзіцем-Вадалеем трэба быць пастаянна гатовым да ўсяго. Ён можа бегаць па вуліцы ў дождж без парасона і плашча, хадзіць у тумане і згубіцца, а таксама капаць канаву для сцёку вады на заднім двары вашай любімай антыкварнай сярэбранай лыжкай.

Выхоўваючы Вадалея, дапамагайце яму сістэматызаваць свае думкі і выстройваць іх па законах логікі. Інакш ён вырасце ў даволі эксцэнтрычную асобу з мноствам ідэй, якія пераблыталіся ў яго галаве так, што ён не ў стане знайсці канцоў.

Прывучыце вашага Вадалея з дзіцячых гадоў да якога-небудзь віду спорту ці хоць бы да простых прагулак і зарадкі. Маючы павышаную мазгавую актыўнасць, Вадалеі часта фізічна зусім інертныя.

З-за сваёй звышчуллівасці і здольнасці пранікаць у думкі і душы іншых, Вадалеі нярэдка схільныя да песімізму ці раздражнёнасці. Гэта тлумачыцца тым, што яны ўлоўліваюць нават нявыказаныя думкі і пачуцці, і гэта іх вельмі мучыць. Прасачыце за тым, каб атмасфера ў доме была спакойнай і добразычлівай, інакш ваш Вадалей вырасце нервовым і неўраўнаважаным.

У Вадалеяў заўсёды шмат сяброў і знаёмых. Яны могуць за адзін дзень пазнаёміцца і пасябраваць з дзесяткамі новых людзей і з такой жа колькасцю расстацца. Вадалеі не надаюць значэння сацыяльнаму паходжанню сваіх знаёмых. Для яго ўсе яны сябры. Ён адносіцца да іх з аднолькавай сімпатыяй проста таму, што яны— прадстаўнікі чалавецтва, якое ён шчыра любіць.

## ВАДАЛЕЙ-НАЧАЛЬНІК

Працуючы ў Вадалея-начальніка, старайцеся захоўваць наступныя правілы. Не пазычайце ў яго грошай — ён любіць людзей, якія жывуць па сродках. Выкладвайцеся на рабоце поўнасцю — ён не выносіць людзей, якія робяць за поўную зарплату палавіну работы. На яго думку, гэта несумленна, а несумленнасці ён не даруе. Не спрабуйце ўмешвацца ў яго асабістае жыццё і даваць яму парады — ён ніколі не ўмешваецца ў ваша, даючы магчымасць вам рабіць усё, што вы лічыце патрэбным.

Не асуджайце яго за нечаканыя ўчынкі і рашэнні — ён лічыць, што права кожнага рабіць, як ён думае, неаспрэчнае. Не пляткарце за яго спінай, не спрабуйце падмануць яго, схлусіць ці парушыць дадзенае яму абяцанне.

Часцей за ўсё ваш бос-Вадалей знаходзіцца ў выдатным настроі. Але затое калі ён закрываецца ў сябе ў кабінеце, яго лепш не чапаць. Такія перыяды кароткага адпачынку неабходныя для яго душы.

Усе супрацоўнікі, незалежна ад службовага становішча, маюць магчымасць заходзіць да яго ў кабінет і размаўляць з ім па душах. У Вадалея на ўсіх хопіць сімпатыі, спачування і любові.

## ВАДАЛЕЙ-ПАДНАЧАЛЕНЫ

Калі сярод вашых супрацоўнікаў ёсць Вадалей, трэба запрашаць яго да сябе ў кабінет не радзей чым раз у тыдзень. І калі вы выслухаеце яго ўважліва, у яго паведамленнях заўсёды знойдзеце масу новага і цікавага, што можа аказацца для фірмы карысным. Вадалей увесь час знаходзіцца ў пошуку, цікавячыся ўсім і перабіраючы ўсе магчымыя і немагчымыя прафесіі, пакуль не знойдзе сябе. Знайшоўшы справу свайго жыцця, ён звычайна супакойваецца і поўнасцю прысвячае сябе ёй.

Што датычыцца дзелавых якасцей, можаце быць упэўнены, што Вадалей сумленна адпрацуе сваю зарплату. Больш таго, ён здольны не толькі захоўваць вытворчыя сакрэты, але і вынаходзіць штосьці такое, што вылучыць вашу фірму ў першыя рады і прынясе ёй шырокую вядомасць. Вадалей — надзейны, разумны і сумленны партнёр, амаль пазбаўлены славалюбства. Грошы таксама не з'яўляюцца яго асноўным клопатам. Узважыўшы ўсе гэтыя якасці і далучыўшы да іх яго добразычлівасць і ўменне ладзіць з людзьмі, вы зробіце вельмі дальнабачны ўчынак, калі запросіце яго стаць сваім кампаньёнам.

## РЫБЫ: люты 20 — сакавік 20

### ЯК РАСПАЗНАЦЬ РЫБ

Валодаючы прыроджанай інтуіцыяй, Рыбы зусім пазбаўлены настойлівасці, лічачы за лепшае плыць па цячэнню і задавальняючыся тым, што дае ім жыццё. Рэдкія Рыбы здольныя змагацца з абставінамі і перадольваць супраціўленне плыні, але менавіта яны і дасягаюць сапраўднай гармоніі і шчасця.

Рыбы па натуры настолькі спакойныя і абыякавыя, што, здаецца, нішто не можа парушыць іх спакой. Лютасць, злосць, зняважі, абвінавачванні і папрокі праходзяць міма, ніяк іх не закранаючы. Скажыце Рыбе, што заўтра наступіць канец свету, і ён рассеяна выслухае вашы словы, а можа нават сонна пазяхне ў адказ. Іншы раз вам здаецца, што ён зусім пазбаўлены якіх-небудзь эмоцый. Але гэта не так.

Кісці рук Рыбы тонкія, надзвычай прыгожыя; іншы раз сустракаюцца Рыбы з рукамі малатабойца, але гэта зноў жа рэдкасць. Скура ў Рыб пяшчотная і празрыстая, валасы тонкія, часта кучаравыя і амаль заўсёды светлыя (рэдкія Рыбы — брунеты). Вочы празрыстыя, быццам вада, з цяжкімі павекамі, нярэдка лупатыя. Рысы твару рухомыя і расплыўчатыя. Сярод Рыб рэдка сустрэнеш высокіх людзей. Але якога б росту і целаскладу яны ні былі, Рыбы заўсёды надзвычай грацыёзныя. Такое ўражанне, што яны не ідуць, а плывуць.

Сімвал Рыбы — дзве рыбы, што плывуць у розныя бакі — часта трактуецца няправільна. Многія думаюць, што ён азначае дваістасць жаданняў. Але двaістасць зусім не ўласцівая Нептуну (не блытайце з Блізнятамі). Знак Рыб сімвалізуе два шляхі, па якіх яны могуць плысці: уверх па цячэнню да дасягнення мэты і ўніз, у нікуды. Прычым выбар шляху залежыць выключна ад іх саміх, таму што ад прыроды Рыбы надзвычай таленавітыя. Прыклад Рыбы, што паплыла ўверх па цячэнню — Альберт Эйнштэйн, стваральнік тэорыі адноснасці. Тыя ж Рыбы, якія выбіраюць больш лёгкі шлях, нярэдка задавальняюцца ў жыцці месцам дворніка ці пасудамыйкі.

Рыбы валодаюць дарам прадбачання. Тое, што яны бачаць у сне, часцей за ўсё адбываецца наяве. Калі ваш сябар-Рыба раскажа вам перад вашай паездкай непрыемны сон, лепш адкладзіце паездку ці выкарыстайце іншы від транспарту. Гэта выратуе вас ад бяды.

У Рыбах аб'ядналіся любоў да спрэчак, уласцівая знакам Паветра, любоў да прыроды, уласцівая знакам Зямлі, і яркая натхнёнасць, уласцівая знакам Агню. Увабраўшы ў сябе якасці ўсіх знакаў і ўсіх стыхій, Рыбы засталіся самі сабой. Гэтаму знаку ўласцівая здольнасць разглядваць сябе нібыта збоку і бачыць адначасова ўчора, сёння і заўтра. Рыбы — самыя слабыя і хваравітыя дзеці. Яны дрэнна ядуць, неспакойныя і з-за дрэннага сну часта выглядаюць соннымі. У Рыб частыя расстройствы страўнікава-кішэчнага тракта, не вельмі добрая печань, слабыя лёгкія. Яны часта прастуджваюцца і хварэюць запаленнем лёгкіх. І ўсё ж у Рыбах ёсць некаторыя скрытыя рэзервы, што ў цяжкую мінуту прыходзяць ім на дапамогу.

(Заканчэнне будзе).





# МАРЫЎ АБ РАДЗІМЕ

Трагічна склаўся лёс савецкага мастака Канстанціна Васільева. Яго жыццё раптоўна абарвалася ў 1976 годзе. За трыццаць чатыры гады, адпушчаныя яму на росквіт і творчасць, мастак напісаў некалькі соцень жывапісных палотнаў.

З самага пачатку творчага шляху Васільеў звязвае сваю дзейнасць з вывучэннем фальклору, выкарыстоўвае ў творах былінныя сюжэты. Дух паданняў і песень фарміруе яго вобразы.

У яго карцінах паўстае пантэон славянскіх старажытных багоў. Усё жыццё мастак шукаў магчымасць раскрыць глыбіню пачуццяў свайго народа. Ён разгортвае панараму падзей мінулага.

Некалькі гадоў распрацоўваў Васільеў германскі эпас «Кальцо Нібелунга», яго адвечную тэму барацьбы дабра са злом.

Пры жыцці Канстанцін Васільеў не прадаў ніводнай сваёй карціны за мяжу: марыў, каб усё засталося на радзіме. З яго спадчынай гледачы могуць пазнаёміцца на выстаўцы ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі.

**Л. САЛОДКІНА.**

НА ЗДЫМКАХ: творы з выстаўкі, у якіх услаўляюцца подзвіг абаронцы, хараство жанчыны і непаўторныя краявіды роднай зямлі.



# Фільмы тыдня

● «АБЛАВА НА БАДЗЯЧЫХ САБАК»
● «СЯСТРЫЧКІ ЛІБЕРЦІ»
● «ЗРОБЛЕНА Ў СССР»
● «ВОСЕМ ПРАЦЭНТАЎ КАХАННЯ»
● «ЗНЕСЕНЫЯ ВЕТРАМ»

**НОВАЯ КАЛЯРОВАЯ** мастацкая кінастужка «АБЛАВА НА БАДЗЯЧЫХ САБАК» пастаўлена рэжысёрам Дамірам Салімавым на кінастудыі «Узбекфільм» па сцэнарыю, напісанаму ім у садружнасці з Уладзіславам Рамановым.

У карціне расказваецца пра чалавека, які ўцёк з-пад следства па «баваўнянай справе», каб пабачыцца са сваім сынам-падлеткам, паспрабаваць апраўдацца перад ім і выканаць абяцанне: паехаць разам з ім на паляванне ў горы.

Галоўныя ролі ў фільме выконваюць Дасхан Жалжаксынаў, Батыр Махмудаў, Таліб Карымаў, Дыяс Рахматаў, Закір Мумінаў.

**ВЫКЛІЧА ІНТАРЭС** у гледачоў і новая каляровая мастацкая кінастужка «СЯСТРЫЧКІ ЛІБЕРЦІ» вытворчасці студыі «Піраміда» і сумеснага прадпрыемства «Старлайт». Аўтар сцэнарыя — Людміла Уліцкая, рэжысёр-пастаноўшчык Уладзімір Грамацікаў.

Дзве юныя «пэтэвэшніцы» Вера і Люба, сёстры-блізняты, зацікавілі мастака-«эстэта» Сержа, вялікага аматара стылю «мадэрн». Па нейкаму дзіўнаму капрызу позірк яго спыняецца на дзвюх правінцыяльных дзяўчынках. Што яго ў іх прывабіла — цяжка растлумачыць. Але дзяўчынкі, вядома, у захапленні, яны згодныя выконваць усе яго капрызы, толькі б застацца сярод «выбраных». Узровень культуры гераінь настолькі нізкі, а жыццёвы вопыт такі невялікі, што не разумеюць яны, бедныя, які нікчэмны на самай справе іх герой і які далёкі ён і на яго падобныя ад сапраўдных вышынь чалавечага духу...

У галоўных ролях заняты Вольга і Алена Стучылавы, Аляксандр Арлоў, Яўген Радзько, Аляксандр Мартынаў, Алена Караджава, Ігар Ясуловіч.

**ЦІ ДАЎНО НАШЫ ДЗЯЎЧЫНКІ І ХЛОПЧЫКІ** са школьных фільмаў байкатавалі настаўніцу за тое, што яна згубіла няшчасную варону, чырванелі і дрыжалі ад пытання: «А калі гэта каханне?»

Ой, даўно. Сёння нават не такія ўжо далёкія страсці «Пудзіла» здаюцца дзетсадаўскімі гульнямі ў пясочніцы. Школа ўяўляецца вялікай чорнай дзіркай — менавіта такі першы сатырычна - сімвалічны кадр новай каляровай мастацкай кінастужкі «ЗРОБЛЕНА Ў СССР», што суправаджаецца іранічным маршам. Спартыўная зала ў такой школе можа ператварыцца ў падабенства гітлераўска-пінячэтаўскага стадыёна-канцлагера, дзе прыціскаюцца адзін да аднаго школьнікі-зняволеныя, а па баках — у позах эсэсаўцаў — вартаўнікі з ліку тых жа школьнікаў. Тут працуе сістэма даносаў, допытаў, псіхічных атак, маральнай знявагі і фізічнага катавання...

Галоўных герояў іграюць Армен Джыгарханян, Аксана Арбузава, Кірыл Бялевіч, Аляксандра Фамічова, Ала Клюка.

Карціна пастаўлена рэжысёрамі Святаславам Тарахоўскім і Уладзімірам Шамшуравым на кінастудыі «Фора-фільм» па сцэнарыю Святаслава Тарахоўскага.

**У СВЕТ СКЛАДАНАЙ КАМП'ЮТЭРНАЙ** электронікі і дэтэктыўнага сюжэту кліча гледачоў каляровая балгарская мастацкая кінастужка «ВОСЕМ ПРАЦЭНТАЎ КАХАННЯ». Яна пастаўлена рэжысёрам Уладзімірам Краевым па сцэнарыю Уладзіміра Манолава.

Выканаўца галоўнай ролі Іван Іваноў — шырока вядомы ў нашай краіне кінаакцёр («Афера», «Лавіна», «Мера спынення — арышт», «Усё — любоў»).

**РАМАН АМЕРЫКАНСКАЙ ПІСЬМЕННІЦЫ** Маргарэт Мітчэл «Знесеныя ветрам» — захапляючы, вострасацыяльны твор, асноўнай праблемай якога з'яўляецца лёс чалавечых каштоўнасцей у свеце куплі-продажу. Дзеянне яго адбываецца ў адзін з найбольш цяжкіх перыядаў у гісторыі ЗША — у час грамадзянскай вайны (1861—1865) і наступнай рэканструкцыі. Рэжысёр Віктар Флемінг і сцэнарыст Сідні Хоуард стварылі па раману самы славуты фільм Галівуда — «ЗНЕСЕНЫЯ ВЕТРАМ», які з трыумфам абышоў амаль усе краіны і кантыненты свету.

Яркія вобразы Скарлет О'Хара і Рэта Батлера стварылі англійская актрыса Вівіен Лі і амерыканская «зорка» Галівуда тых гадоў Кларк Гейбл...

У Мінску паказ фільма пачаўся з 22 лістапада ў Палацы культуры Мінскага аўтазавода, а з 25 лістапада — у Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў.

# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## 26 лістапада

### Праграма Беларускага тэлебачання

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Вяцкія карункі». Кінанарыс.
**9.00.** Выяўленчае мастацтва. 4 клас.
**9.20.** «Сэрца не камень». Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі.
**11.35.** «У імя і на карысць». Дак. фільм.
**12.05.** «Вацлавас Даўнорас на опернай сцэне». Фільм-канцэрт.
**12.45.** «Ад і да».
**13.00.** Рытмічная гімнастыка.
**13.30.** Спявае Каўнаскі Дзяржаўны хор.
**14.10.** «Твар на мішэні». Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**16.50.** Мультфільмы.
**17.30.** Тэлеклуб «Пошук».
**18.00.** «Дзе яно, каралеўства Лябедзія?» Дак. фільм.
**18.55.** Наш каментарый.
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Вецер вандраванняў.
**20.15.** «Амега-спорт» прадстаўляе: «Дынама» буйным планам. Павел Раднёнак.
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** «Дарога». Дак. фільм.
**21.25.** Тэлебіржа.
**21.40.** Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіча.
**21.55.** Працістаянне. Маральна-прававая праграма.
**23.25.** Рэха дня.
**23.35.** «Наш чалавек у Сан-Рэма». Маст. фільм.

### Першая праграма

**6.30.** Раніца.
**9.05.** Маст. фільм «Фантамас». 2-я серыя «Абдымкі д'ябла».
**11.40.** Танцы Старажытнай Элады.
**12.00.** ТСН.
**12.10.** «Не, я не здрадзіў...» Лёс і жыццё Афанасія Фета.
**13.15.** Канцэрт камернай музыкі.
**15.00.** ТСН (з сурдаперакладам).
**15.15.** У гасцях у М. Озерава.
**15.45.** «Суд у Яршоўцы». Маст. фільм. 1-я серыя.
**17.35.** Разам з чэмпіёнамі.
**17.50.** Мультфільмы.
**18.15.** Свет захопленых. Кветкі ў доме.
**18.30.** ТСН.
**18.45.** Ступені.
**19.25.** Маст. фільм «Фантамас». 3-я серыя «Мярцвяк-забойца».
**21.00.** Інфармацыйная праграма.
**21.35.** «Перажытае». Фільмы 3-ці і 4-ы.
**22.05.** Тэлевізійнае знаёмства.
**23.15.** ТСН.
**23.30.** Праграма Ікс.
**0.30.** «Мікалай Зіноўеў прымае сяброў».

### Расійскі канал

**17.00.** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**18.00.** Тэлеагляд «Далёкі Усход».
**18.45.** Парламенцкі веснік Расіі.
**19.00.** Тэлеканал «Фартуна» запрашае на гала-прадстаўленне.
**22.35.** Расія дзелавая.
**23.00.** Весткі.
**23.20.** Астралагічны прагноз на заўтра.
**23.25.** Паралелі. «Пацешныя гульні». Частка 1-я.

## 27 лістапада

### Праграма Беларускага тэлебачання

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Кузня» Кінанарыс.
**9.00.** Музыка і спевы. 2 клас.
**9.20.** Ліра.
**10.05.** Экран беларускага кіно. «Наш чалавек у Сан-Рэма».
**11.50.** «Матылькі высакагор'я», «У дэльце Ілі». Дак. фільмы.
**12.30.** «К-2» прадстаўляе.
**13.25.** «Месца здарэння — Лешкаў луг». Дак. фільм.
**14.05.** Канцэрт В. Пікайзена (скрыпка).
**15.10.** «Рэпартаж ля краю бездані». Дак. фільм.
**16.00.** «Танцуе Ірына Калпакова». Фільм-канцэрт.
**16.30.** Для школьнікаў. Запрашальны білет. Госці з Сімферопаля.
**17.45.** «Добры лес». Мультфільм.
**18.00.** «Спадчына». Дак. фільм.
**18.25.** «Дзень добры, поле!» Тэленарыс пра воіна-афганца, трактарыста з Вілейскага раёна П. Петрашкевіча.
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Наш каментарый. Цана «Калашнікава».
**19.30.** Відэаканал «5 плюс».
**20.45.** Калыханка.
**21.00.** Відэаканал «5 плюс». У перапынках — Бізнес-клуб «Партнёр» прапануе... Біржавыя навіны; Рэха дня.

### Першая праграма

**6.30.** Раніца.
**9.00.** Маст. фільм «Фантамас» 3-я серыя «Мярцвяк-забойца».
**10.30.** «Жыраф-шэрыф». Мультфільм.
**10.40.** Разам з чэмпіёнамі.
**10.55.** Дзіцячы музычны клуб.
**11.40.** Іграе Дзяржаўны духавы аркестр РСФСР.
**12.00.** ТСН.
**12.10.** Па зводках МУС.
**12.25.** Праграма Ікс.
**13.25.** Спявае Кацярына Шаўрына.
**13.50.** Біржавыя навіны.
**14.05.** Блакнот.
**14.10.** Партнёр.
**14.40.** Гандлёвы рад.
**15.00.** ТСН (з сурдаперакладам).
**15.10.** «Сёння і тады».
**15.40.** «Суд у Яршоўцы». Маст. фільм. 2-я серыя.
**16.45.** «Светлыя гукі сантура». Іграе Масуд Місагіян.
**17.00.** Дзіцячая гадзіна (з урокам англійскай мовы).
**18.00.** Планета.
**18.30.** ТСН.
**18.45.** Паводле зводак МУС.
**19.00.** Аб будучым «вялікай» навукі.
**19.20.** Маст. фільм. «Фантамас». 4-я серыя. «Трамвай-прывід».
**21.00.** Інфармацыйная праграма.
**21.35.** «Перажытае». Фільм 5-ы.
**22.00.** Спартыўная праграма. У перапынку **(22.50)** — ТСН.
**23.55.** Музычны прагноз. 5-ы тур.
**0.15** «Каханне з першага позірку». Дзень 1-ы.

### Расійскі канал

**17.00.** Спявае В. Гатоўцава.
**17.20.** «Найвысачэйша зацверджаны». Герб Масквы.
**17.45.** Фільмы рэжысёра В. Гладышава. «Блізкая пустэча».
**18.45.** Крымінальныя весткі.
**19.00.** Прашу слова.
**19.10.** Маладыя мастакі Асеціі.
**19.25.** Чырвоныя і белыя.
**20.00.** Весткі.
**20.20.** Добрай ночы, малышы!
**20.35.** «Апошні шанц...» Дак. фільм.
**21.35.** На сесіі Вярхоўнага Савета РСФСР.
**22.00.** Патрыцыя Каас у Маскве.
**23.00.** Весткі.
**23.20.** Астралагічны прагноз на заўтра.
**23.25.** Патрыцыя Каас у Маскве (працяг).



# РАДЫЁ

## 27 лістапада

10.35—У. Ляўданскі. «Дзядулева тайна». Інсцэніраванае апавяданне. 11.20 — «Каб не гінулі людзі». Пра новыя правілы бяспекі дарожнага руху. 11.40 — выступаюць беларускія эстрадныя ансамблі. 12.00 — студыя «Новая хваля». 12.30 — «У абедзенны перапынак». Інфармацыйна-музычная праграма. 13.30 — «На хвалі часу». 14.00 — «Чырвоны. Жоўты. Зялёны!» Перадача для вадзіцеляў і пешаходаў. 14.50 — «У Савеце Міністраў рэспублікі». Урадавая прэс-служба паведамляе. 15.15 — выступае група «Паветраны мост». 15.40 — «Наш рэферэндум». Публіцыстычная перадача. 16.15 — «Мы едзем, едзем, едзем...». Музычна-забаўляльная праграма. 17.15 — «Гармонія». Праграма класічнай музыкі. 18.40 — «Ад нашага ўласнага карэспандэнта». 19.00 — «Эстрадная мазаіка». Канцэрт. 19.30 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 20.15 — вячэрняя казка. 20.25 — «Дзень нашага жыцця». Інфармацыйны выпуск. 20.40 — да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. В. Шымук. «Лёс паэта». Радыёспектакль. Частка 1-я. 21.20 — музычная праграма з удзелам фальклорнага ансамбля «Церніца». 22.15 — да 100-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. В. Шымук. «Лёс паэта». Радыёспектакль. Частка 2-я, заключная. 23.15 — радыёстанцыя «Юнацтва».

# НАДВОР'Е

## 26 лістапада

**Усход, захад, даўжыня дня: Мінск — 7.56, 15.58, 8.02; Віцебск — 7.53, 15.42, 7.49; Магілёў — 7.45, 18.47, 8.02; Гомель — 7.37, 15.51, 8.14; Гродна — 8.12, 16.13, 7.01; Брэст — 8.04, 16.22, 8.18.**

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачнае надвор'е. Месцамі невялікі дождж, туман. Тэмпература паветра ў Брэсце 5—7, Гродна, Гомелі — 4—6, Мінску, Магілёве — 3—5, Віцебску 2—4 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі невялікія ападкі, туман. Тэмпература паветра ўначы ад нуля да 5, удзень — 1—6 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

# СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ

## СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**Бліц-факт.** Кароткія падзеі па краіне.

Пад рубрыкай «Вопыт». **«Раім пераняць»** — перадрук артыкула з газеты «Правда» **«Ідэя дастаткова вар'яцкая — яна правільная».**

**Банкноты ідуць у падполле.** Каментарый.

Адказ на просьбу пенсіянера Г. Тройніча **«Колькі каштуе мяса!»**

Падборка **«Чытач — чытачу».**

**«Ох, рыпяць мае лапці...»** Праблему сённяшняга сервісу даследуе наш карэспандэнт М. Камяк.

Заканчэнне крымінальнага нарыса **«Не забі» — «Прыгавораны да расстрэлу».**

**«Дарога і ты». «Зялёная аптэка». «Кругагляд».**

# «СПОРТЛАТО»

Вынікі 47-га тыражу латарэі «Спортлато».

**«6 з 45»:** 9, 22, 24, 27, 33, 43.
**«5 з 36»:** 4, 16, 28, 29, 34

(ТАСС).

# БелаПАН: «Неабходна захаваць інтэлігентнасць...»

**Амаль два месяцы назад многія чытачы былі здзіўлены, убачыўшы пад некаторымі артыкуламі загадкавы подпіс «БелаПАН». І было ад чаго. Доўгія гады белтаўскай манаполіі выпрацавалі звычку з недаверам ставіцца да ўсяго новага, асабліва што датычыць апошняй інфармацыі. Але нарэшце з'явілася альтэрнатыва. Вядома, толькі час пакажа, ці здольны «навічок» даць бой «сівому ветэрану». А мы не спяшаемся, як кажуць, пажывём — пабачым.**

**Каб лепш зразумець мэты і задачы Беларускага прыватнага агенцтва навін (БелаПАН), я папрасіў намесніка дырэктара агенцтва Віталя ЦЫГАНКОВА адказаць на некалькі пытанняў.**

**— Па-першае, віншую з афіцыяльным прызнаннем, і адсюль — якую дату вы лічыце днём нараджэння, — 19 лістапада, калі агенцтва было зарэгістравана, ці ўсё ж той дзень, калі на старонках газет упершыню з'явіўся таямнічы БелаПАН?**

— Наогул мы яшчэ не вызначылі, які дзень адзначаць за прыгожа накрытым сталом. А калі сур'ёзна, то сапраўды, 19 лістапада мы былі зарэгістраваны ў Кастрычніцкім выканкоме як таварыства з абмежаванай адказнасцю на чале з дырэктарам Алесем Ліпаем і намеснікам у маёй асобе. Але першая наша рэальная справа пазначана 1 кастрычніка, калі мы ўпершыню падалі заяву ў «Знамя юности» і ў той жа дзень панеслі інфармацыю ў іншыя газеты. Тады мы яшчэ працавалі як часовы творчы калектыў, а зараз нарэшце набылі статус юрыдычнай асобы.

**— Якімі найбольш характэрнымі рысамі БелаПАН будзе адрозніваецца ад БЕЛТА?**

— Найперш БЕЛТА перастае дыктаваць і навязваць умовы. Да апошняга часу ў Беларусі проста не было альтэрнатывы, у той час як у Расіі, Закаўказзі, Прыбалтыцы незалежных агенцтваў зарэгістраваны дзесяткі. Я па абавязку сваёй службы шмат гутару з рознымі людзьмі, у тым ліку і з журналістамі, і з іх слоў зразумеў, што БЕЛТА далёка не задавальняе патрэбнасці прэсы, бо, шчыра кажучы, у белтаўскіх інфармацыях пераважае афіцыёз, а тое, што даецца апрача яго, не заўсёды цікавае. У прынцыпе гэта і зразумела: БЕЛТА — рупар урада. Мы ж у сваёй рабоце будзем апірацца не на тое, што патрэбна органам улады, а на тое, што можа зацікавіць самага патрабавальнага чытача. Да таго ж, мы не выконваем «персанальных» просьбаў розных рухаў, партый, плыняў, а працуем як незалежныя журналісты.

**— А як наконт атрымання інфармацыі ад няштатных супрацоўнікаў?**

— Гэта вельмі важны момант, і, карыстаючыся трыбунай «Звязды», я хацеў бы запрасіць да супрацоўніцтва перш за ўсё незапатрабаваны журналісцкі патэнцыял раённых газет. Многія з іх даўно ўжо перараслі свае выданні і, напэўна, хацелі б супрацоўнічаць з нейкім іншым органам. Наша агенцтва адчыняе для іх дзверы.

Акрамя таго, і я, і Алесь Ліпай пэўны час працавалі ў інфармацыйным аддзеле «Знамя юности». Засталіся сувязі, крыніцы інфармацыі.

**— Не сёння, дык заўтра пачнуць узнікаць агенцтвы, ужо альтэрнатыўныя вашаму. Не пужае?**

— Канкурэнцыя не пужае, наадварот, гэта добры стымул для большай актыўнасці. Канешне, недзе ёсць такое падсвядомае жаданне — каб канкурэнцыі не было. Але пазбегнуць яе ўсё роўна не ўдасца, таму паўстае задача проста выжыць. Хочацца толькі аднаго: каб у гэтай гонцы не адбывалася нейкіх непрыстойных выпадаў. У любым выпадку неабходна захаваць інтэлігентнасць, і тады кожны будзе выйграваць у сумленнай барацьбе за кошт уласнага майстэрства, аператыўнасці, разгалінаванасці карэспандэнцкай сеткі...

**— На што будзе рабіцца асноўны акцэнт: сціслы матэрыял, толькі «соль» падзеі, разважанні або нешта іншае?**

— У ідэале трэба ўмець сумяшчаць усё. Але паколькі само прызначэнне агенцтва — аператыўная інфармацыя, то і падача яе павінна быць аналагічнай, г. зн. — коратка і ясна. А што датычыць больш ёмістых жанраў — інтэрв'ю, аналітыкі, — то яны павінны ўяўляць павышаную цікавасць. У гэтым выпадку мы маем права эксклюзійна прадаць аб'ёмны артыкул у любое выданне ў залежнасці ад яго спецыфікі, напрыклад, музычны матэрыял — у «Крыніцу», «Сароку»; палітычны — у «Народную газету» і г.д.

**— Напэўна, плануецца наладжванне сувязей з іншымі рэгіёнамі, не замыкацца ж адной Беларуссю?**

— У нас ужо ёсць уласныя карэспандэнты ў Рызе, Таліне, Кіеве. Зараз імкнёмся наладзіць сувязі з маскоўскімі агенцтвамі. Увогуле гэта важна не толькі для БелаПАНа, але і для ўсёй рэспублікі, бо сёння, пры ўсім нашым стаpанні, усё яшчэ назіраецца інфармацыйная блакада. Далёка не ўсё цікавае і патрэбнае знаходзіць месца на старонках цэнтральнага друку. Мы пастараемся «прабіць акно» ў найбольш важныя цэнтры былога Саюза.

**— Любая паважаючая сябе фірма мае штаб-кватэру...**

— Зразумеў. Свой офіс у нас ужо ёсць, праўда, пакуль што без сродкаў сувязі. Таму з намі лепш звязвацца па дамашніх тэлефонах 71-68-02 — Алесь Ліпай і 23-09-41 — Віталь Цыганкоў. Яшчэ раз запрашаем да супрацоўніцтва і абяцаем, што на ганарар у крыўдзе ніхто не застанецца.

**— А як наконт палітызаванай афарбоўкі?**

— Хоць і я, і Алесь у жыцці даволі палітызаваныя людзі, але на справе гэта адбівацца не будзе. Наогул мы зыходзім з прынцыпу: аддзяляй палітыку ад работы. Тое самае і адносна нашых супрацоўнікаў на месцах. Нас не цікавіць, якіх поглядаў прытрымліваецца той ці іншы чалавек, мы прымаем цікавую для нас і нашых чытачоў інфармацыю. Да таго ж даём магчымасць выказацца людзям абсалютна розных рухаў, партый і веравызнанняў.

У той ці іншай ступені БелаПАН заключыў пагадненні з радыё, амаль усімі газетамі. Мы зацікаўлены і ў супрацоўніцтве са «Звяздой» і спадзяёмся, што ваша рэдакцыя таксама зробіць крок насустрач. Сёння, як ніколі, патрэбна ўзаемаразуменне.

**Гутарыў Ігар КАРНЕЙ.**

**Галоўны рэдактар У. Б. НАРКЕВІЧ.**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

НАШ АДРАС
220041, гор. Мінск, Ленінскі праспект, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў — 32-04-52; 32-41-92, рэкламы і аб'яў — 32-35-91, навін — 32-60-13.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку»

**Тыраж 102.822.**
**Індэкс 63850.**
**Зак. № 226.**

*Выходзіць 250 разоў на год.*

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12